


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 12 (183) ЖНІВЕНЬ 2014 ГОДА

**Цытата нумара:**

***Мудрасць: мысліць з песімізмам, дзейнічаць з аптымізмам***

**Герман Гесэ**

НАШЫ ЗАРОБКІ

## ВЫРАБЛЯЕМ БОЛЬШ, А АТРЫМЛІВАЕМ МЕНШ

**У Гарадоцкім раёне выручка ад рэалізацыі прадукцыі, паслугаў большая, а сярэдні заробак меншы.**

Апошнія статыстычныя даныя аб развіцці рэгіёнаў Беларусі зафіксавалі, што ў Гарадоцкім раёне адзін з самых нізкіх сярэдніх заробкаў у краіне пры дастаткова значнай выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, паслугаў.

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў афіцыйныя даныя аб сярэдняй зарплаце за травень месяц і выручке за рэалізацыю прадукцыі, тавараў, работ, паслугаў па камерцыйных арганізацыях на аднаго сярэднеспісачнага работніка. Гэтыя лічбы засведчылі, што жыхарам Гарадоччыны будзе складана спаўна карыстацца новай інфраструктурай райцэнтра, якая пабудавана да Дажынак. Як кажуць: "не да жыру быць бы жыву", бо сярэдні заробак у Гарадоцкім раёне адзін з самых нізкіх на Беларусі: шостае месца знізу.

Гэты заробак па раёну за травень склаў толькі 4 млн. 217 тысяч на аднаго работніка, пры 6 млн. 56 тысячах рублёў сярэдняга заробка па краіне і 5 млн. 393 тысячах па Віцебскай вобласці. Ад сярэдняга заробка па Віцебшчыне сярэдні заробак у Гарадоцкім раёне склаў толькі 79,1% і зменшыўся на 1,8% ў параўнанні з мінулым годам. Меншыя заробкі на Віцебшчыне толькі ў Браслаўскім і Міёрскім раёнах.

Між тым выручка за рэалізацыю прадукцыі, тавараў, паслугаў па камерцыйных арганізацыях на аднаго сярэднеспісачнага работніка ў нашым раёне за пяць месяцаў 2014 года дасягнула 77,3 млн. рублёў. Гэта канешне значна менш, чым агульнанацыянальны паказчык у 260,7 млн. рублёў, але вышэй чым яшчэ ў 11 раёнах Віцебскай вобласці і 14 раёнах іншых рэгіёнаў краіны. 26 месца па выручке і 6 месца па сярэдняму заробку – гэта сведчанне дыспрапорцыі ў ацэнцы вынікаў працы і вырабленай прадукцыі.

Відавочна, што прафсаюзы, якія павінны стаяць на абароне інтарэсаў працоўных, не выконваюць спаўна свае абавязкі па абароне права работнікаў на адэкватную зарплату па выніках іх працы. Праўда, фактаў барацьбы прафсаюзаў за дастойны заробак, як у раёне так і па вобласці, цяжка прыгадаць, за выключэннем дзейнасці незалежных прафсаюзаў у Наваполацку і Оршы.

**Л. Антонаў**

СТЫЛЬ ПРАЦЫ

## РАБІЦЬ І ПОТЫМ ПЕРАРАБЛЯЦЬ

**Добраўпарадкаванне Гарадка не абыходзіцца без пачварнай з'явы: перараблянне нядаўна зробленага. Яркі прыклад такой арганізацыі працы – рэканструкцыя фантана на вул. Савецкай**

Фантан на вуліцы Савецкай быў пабудаваны толькі два гады назад пры закрыцці вуліцы для пешаходнага руху ад плошчы да вул. Валадарская. Гэты "кавалак Еўропы" быў адзначаны выкладаннем вуліцы пліткай, усталяванне прыгожых ліхтароў, лаваў і фантана каля крамы "Калінка". Фантан, праўда, быў ад самага пачатку не еўрапейскім – ўяўляў сабой некалькі струменняў вады, які не адпавядалі яго манументальнасці. Падобныя "фантаны" таксама ўсталяваны ў скверы і дзіцячым парку за Домам культуры.

Наяўнасцю такога фантана гасцей "Дажынак" магчыма было толькі рассмяшыць, а не здзівіць. Таму манументальны фантан дэманціравалі яшчэ па зіме і з вясны пачалі будаваць новы.

Але для новага фантана патрэбна не толькі новае аблічча, а і іншая вадаправодная сістэма. У выніку гэтых патрэб давялося ламаць плітку ад фантана да вул. Вароўскага, каб праклацісі новыя трубы, а таксама новыя кольцы.

Гэтая гісторыя з прымітыўным фантанам яшчэ раз засведчыла, што скваплны плаціць двойчы. Але ў нашым выпадку народныя грошы асабліва ніхто не лічыць: абы было прыгожа.

Прыкладаў перараблення зробленага ўжо па Гарадку хапае. На цэнтральнай плошчы да 70-годдзя вызвалення Беларусі каля музея паклалі плітку, а потым яе падымалі і ўсталёўвалі клумбы. Гэтую ж плітку паклалі каля яра па вул. К. Маркса, а потым падымалі праз два тыдні, каб устанаўліваць агароджа. На павароце з вул. К.Маркса каля помніка воінам інтэрнацыяналістам не устанавілі лiўнёўку і пасля начнога дажджу сёння пачалі перараблiваць зробленае.

Абвяшчэнне "Дажынак" у Гарадку на 19-20 верасня ставіць аўральны графік завяршэння асноўных прац у цэнтры Гарадка. Але гэта прыкмета ўсіх "Дажынак", якія арганізуюцца чыноўнікамі, а не руплівымі гаспадарамі.

**Л. Антонаў**



ГРАМАДСКІ ТРАНСПАРТ

## ЗАМЕСТ ПРЫПЫНКУ ЎТВАРЫЛАСЯ ПАРКОЎКА

**Дарожнікі ліквідавалі аўтобусны прыпынак каля аўтастанцыі, але новы прыпынак каля пракуратуры не абсталявалі**

Маштабная рэканструкцыя цэнтральнай вуліцы Гарадка часам суправаджаецца дзеяннямі не зразумелымі пасажырам гарадскіх аўтобусных маршрутаў. Гэта найперш датычыцца аўтобуснага прыпынку каля аўтастанцыі пры руху з цэнтра горада на Гагарына.

Напачатку жніўня быў ліквідаваны стары прыпынак каля аўтастанцыі і ўсталяваны бардзюры, якія зрабілі фізічна немагчымым спыненне аўтатранспарта на старым прыпынку. Праз пару тыдняў у кішэні на дарозе па вул. К. Маркса каля пракуратуры з'явіліся дарожныя знакі аўтобуснага прыпынку без крытага павільёна.

Але гэтая кішэнь з самага свайго пачатку стала выкарыстоўвацца аўтааматарамі для паркоўкі. Бо ніякага іншага месца для паркоўкі каля папулярнай крамы "Ганна" няма. Утварэнне суцэльнай пешаходнай зоны па вул. Вароўскага прывяло да таго, што дастаўка прадуктаў у краму "Ганна" ажыццяўляецца з скрыжавання вул. Вароўскага і вул. К.Маркса.

Зараз адны пасажыры чакаюць маршрутнага аўтобуса каля былога прыпынку, а другія робяць пасадку з новага прыпынку, на які аўтобус не мае магчымасці заехаць.

Самае простае рашэнне – ДАІ пачне штрафаваць аўтааматараў за парушэнне правілаў паркоўкі і вызваліць аўтобусны прыпынак. Але ж гэта ніякім чынам не рашыць праблему адсутнасці сучаснай паркоўкі каля крамы "Ганна". Ды і не зразумела яшчэ дзе будзе прыпынак гарадскога аўтобуса пры руху з Гагарына ў цэнтр. Зараз з парушэннем правілаў дарожнага руху высадка і пасадка пасажыраў ажыццяўляецца каля скрыжавання вул. Ленінская і Невельскай шашы. Хутчэй за ўсё прыпынак гарадскога маршрута будзе на самой аўтастанцыі, калі яе адкрыюць.

**Л. Антонаў**

І ТАК БЫВАЕ...

## УЛАДЫ "ПАМАЛАДЗІЛІ" ГАРАДОК

**Віцебскае ДБУ-34 ААТ "ДБТ-1" сваечасова за чатары месяцы завяршыла працу па капітальнаму рамонту дарогі Р-115 на пачатку Гарадка на 34,5-36,37 км.**

З апошняй дэкады ліпеня пачатак Гарадка з вуліцы Баграмяна набыў новае аблічча. Дарожнікі з ДБУ-34 г. Віцебска завяршылі чатырохмесячную працу па капітальнаму рамонту дарогі. За гэты час будаўнікі замянялі тратуары, абсталявалі месца прыпынку, устанавілі новыя бардзюры, а таксама паставілі агароджу каля дарогі, якую заасфальтавалі.

Апошнім этапам стала устаноўка новых паказальнікаў і нанясенне дарожнай разметкі. На дарозе ўстаноўлены вялікія паказальнікі вуліц Баграмяна, Спартыўнай, Паўднёвай і г.д.

Зараз уезд у Гарадок сустракае новая шыльда з гербам Гарадка і дзіўным годам яго заснавання – 1777 – часам, калі ў Расейскай імперыі Гарадку нададзены статус горада. Гэта пры тым, што ў кнізе "Памяці" ды і з гісторыі вядома, што на карце Пахалавіцкага Гарадок пазначаны ў 1579 годзе. Таксама вядома, што яшчэ ў 1128 г. з нагоды ваеннага паходу кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча ў Полацкую зямлю было ў летапісу напісана: "В лето 6636. Посла князь Мсціслаў с братьею своею многи кривичи, четырьмя путьми:... Всеволодка из Городка... повеле ити к Изяславлю... ". А нядаўнія раскопкі кургана ў Гарадку ля возера Лугавое далі гэтай даце сваё падцверджанне – знойдзены пахавальны гаршчок датаваны Х стагоддзем.

І калі іншыя гарады краіны імкнуцца давесці сваю гісторыю з як мага болей глыбокай даўніны ( нядаўна Глыбокае адзначала сваё 600 годдзе), то гарадоцкія ўлады вырашылі "здзяцінецца" – памаладзіць Гарадок на некалькі стагоддзяў. А магчыма лічаць Гарадок часткай расейскай дзяржавы?...

**Л. Гаравы**

НАВІНЫ ПРАКУРАТУРЫ

# АД ПРАКУРАТУРЫ НЕ ЎЦЯЧЫ

**Намеснік старшыні Гарадоцкага райспажыўсаюза паспрабавала збегчы ад праверкі работнікамі пракуратуры дзейнасці райспажыўсаюза, пакінуўшы працоўнае месца, але ў выніку была прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці.**

Намеснік пракурора Гарадоцкага раёна Максім Зіновік паведаміў на сайце gorodok-prokuror.alioshyn.com/ , што за 5 месяцаў 2014 пракуратурай Гарадоцкага раёна праведзена 8 праверак выканання заканадаўства арганізацыямі, установамі, прадпрыемствамі і гаспадаркамі раёна.

У парадку нагляду ўнесены 27 прадстаўленняў аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства, прычын і ўмоў ім спрыяюць, вынесеныя 48 прадпісанняў. Па выніках праведзеных пракуратурай раёна праверак распачаты 4 крымінальныя справы, 72 асобы прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

Пры праверках работнікі пракуратуры кіруюцца Палажэннем аб парадку арганізацыі і правядзення праверак, зацверджаным Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16.10.2009 № 510 "Аб удасканаленні кантрольнай (наглядная) дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь", якім на правяраныя суб'екты, іх прадстаўнікоў і ўдзельнікаў кантрольнага абмеру ускладзеныя абавязкі , якія падлягаюць абавязковому выкананню.

У пераважнай большасці выпадкаў правяраныя суб'екты добрасумленна выконваюць гэтыя абавязкі, але знайшліся і такія, якія з мэтай утойвання нават нязначных парушэнняў, спрабавалі процідзейнічаць правядзенню пракурорскай праверкі, увесці правяраючых у зман.

Так, у ходзе праверкі, праведзенай пракуратурай Гарадоцкага раёна ў лютым 2014 ў Гарадоцкім райпо, намеснік старшыні праўлення таварыства хацела было перашкодзіць правядзенню праверкі, а менавіта, не прадставіла дакументы, неабходныя пракурорскім работнікам, і спешна пакінула працоўнае месца, кінуўшы сваіх падначаленых «аддзімацца »за дапушчаныя ёю парушэнні.

Па дадзеным факце ў дачыненні да яе пракуратурай раёна быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па арт. 23.2 КаАП Рэспублікі Беларусь (перашкода ўпаўнаважанай службовай асобе дзяржаўнага органа ў правядзенні праверкі).

Пастановай суда Гарадоцкага раёна ад 10 красавіка азначаная службовая асоба прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу на суму 1.800.000 рублёў.

Варта адзначыць, што арт. 23.1 КаАП Рэспублікі Беларусь за невыкананне, неналежнае або несвоечасовае выкананне службовай асобай, індывідуальным прадпрымальнікам або іншым фізічнай асобай выяўленага ва ўсталяванай заканадаўствам форме патрабавання службовай асобы, якая ажыццяўляе дзяржаўны нагляд, або непрыняцце мер да ліквідацыі названых у іх парушэнняў прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе папярэджання або штрафу у памеры да дваццаці базавых велічынь (3.000.000 рублёў).

**Л. Антонаў**

СПАРТЫЎНЫ АБ'ЕКТ

# БАСЕЙН УСЁ Ж БУДУЮЦЬ

**Пасля рабочай паездкі Міхаіла Мясніковіча ў Гарадоцкі раён на месцы будучага басейна па вул. Гагарына аднавілася праца.**

25 ліпеня Міхаіл Мясніковіч наведаў аб'екты Гарадка, якія павінны здаць да "Дажынак" і застаўся незадаволенны тэмпамі працы і прыцягненнем спонсарскай дапамогі. Намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкаму Уладзімер Цярэнцьеў казаў аб гатоўнасці дажынкавых аб'ектаў амаль на 62%.

Але асобныя аб'екты да "Дажынак": рэканструкцыя вуліцы Гагарына, будаўніцтва басейна, дабраўпарадкаванне зоны адпачынку каля Гаражанкі, рамонт гарадскога стадыёна, будаўніцтва стадыёна каля ФАКа на Гагарына, лыжаролернай трасы і біятлоннага стадыёна ў Гарадку так яшчэ фактычна і не пачыналі будавацца.

І вось з панядзелка 28 ліпеня ажывілася праца на месцы мяркуемага басейна па вул. Гагарына. Напачатку тыдня з катлавана пад басейн вывозілі грунт. Але з яго выдаленнем пачалі падымацца грунтовыя воды.

Пасля гэтага будаўнікі пачалі адваротны працэс – засыпанне катлавана пяском, яго ўшчыльненне пры адкачкі вады з катлавана пад будучы басейн. На будаўніцтве басейна пакуль працуе не шмат тэхнікі.

І малая верагоднасць, што яго здадуць да "Дажынак". Але галоўны інспектар вобласці Мікалай Дамашкевіч, які наведаў Гарадок 30 ліпеня запэўніваў, што аб'ект, якія вызначаны па плану дабраўпарадкавання Гарадка, павінны дабудоўвацца і пасля "Дажынак"

**Л. Антонаў**

ПОГЛЯД СА СТАЛІЦЫ

# ШАЛЁНЫ МАРАФЕТ

**Гарадок, райцэнтр у Віцебскай вобласці, перажывае звышхуткую рэканструкцыю. Аўральная праца будаўнікоў звышрастратная. Прэм'ер-міністр Мясніковіч незадаволены становішчам. Жыхарам горада нязручна, але прыемна, што «робіцца хоць нешта».**

**Перадгісторыя**

13 верасня, перад «Дажынкамі» ў Жлобіне, Аляксандр Лукашэнка падпісвае распараджэнне, згодна з якім Рэспубліканскі фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі пройдзе ў Гарадку. Ствараецца аргкамітэт, які выпрацоўвае план мерапрыемстваў. Разам з бюджэтам краіны на 2014 год ухваляецца і бюджэт на «Дажынкі». Аргкамітэт узначальвае намеснік Мясніковіча — Міхаіл Русы.

Мясцовыя ўлады ў Гарадку, адчуваючы маштаб дзярждатацый на рэканструкцыю і развіццё інфраструктуры, пацiраюць рукі.

Навастворaны аргкамітэт «Дажынак-2014» наведвае Гарадок у лютым і робіць выснову, што сродкаў для падрыхтоўкі да рэспубліканскага свята ў бюджэце хапае толькі на чвэрць ад запланаванага.

10 сакавіка, на спецнарадзе па «Дажынках», Лукашэнка прыняў рашэнне іх адмяніць. Яны «пакідаюць добры след у народа», але ў іх арганізацыі «ёсць пэўныя недахопы».

У канцы сакавіка працоўная групаэкспэдзеУГарадокзновай інспекцыяй і расчараваннем для мясцовай вертыкалі — у Гарадку пройдуць абласныя «Дажынкі». Але рэканструкцыя ўжо распачата, цэнтр горада пераўтвораны ў будпляцоўку, а часу застаецца не так і шмат.

**І помнік Тарасу**

Ад вясны Гарадок стаў другім па важнасці «спецаб'ектам» у Беларусі пасля будоўлі Астравецкай АЭС. Замяняецца асфальт на дарозе Віцебск— Гарадок. Высякаецца кустоўе вакол трасаў. Прыдарожнае возера Доўжа чысцяць ад водарасцяў. Вуліцы Гарадка застаўлены будаўнічай тэхнікай. Цэнтр горада нагадвае адну вялікую будоўлю, быццам гэтае месца будуецца з нуля на пустым месцы, як шматлікія гарады «энергетыкаў» і «атамшчыкаў» у савецкі час.

Сотні будаўнікоў — укладчыкаў, экскаватаршчыкаў, муляроў — запаланілі вуліцы мацюкамі.

Цэнтральная плошча ўжо рэканструявана. З фасада Дома культуры на мяне з глазураванай мазаікі шчасліва пазіраюць чырвонаармейцы, працаўнікі сяла і гожыя дзяўчаты, якія збіраюць яблыкі. Леніна з плошчы прыбралі ўбок і заціснулі паміж будынкамі.

Цяпер яго пралетарскае вітанне ў будучыню ўказвае на могілкі — з супрацьлеглага боку плошчы месціца мемарыял Вялікай Айчыннай.

Насупраць мемарыяла, на тым канцы плошчы, ззяе абноўлены будынак краязнаўчага музея. Шпіль яго даха ўпрыгожвае «Пагоня», герб Віцебшчыны. Такое пазітыўнае адкрыццё, якога ніколі не чакаеш ад кандовых рэканструкцый «пад дажынкі» — дэсаветызацыя і беларусізацыя адным махам.

А яшчэ ж у цэнтры Гарадка ўсталююць і помнік герою паэмы «Тарас на Парнасе». Яна ж тут была напісана шляхціцам Веранiцыным. Гэта калі пра добрае…

**Лепш так, чым было**

Пенсіянер Васіль асцярожна выходзіць са свайго пад'езда — яго дом па вуліцы Пралетарскай ў цэнтры рэканструкцыі. У цаглянай трохпавярховай скрыні адначасова ўцяпляюць, тынкуюць і фарбуць фасад, надбудоўваюць дах з чырвонай металадахоўкі і падводзяць новыя трубы. Адразу перад пад'ездам вялікая яма. «Ну, канечне, трохі цапу-лапу, можа, і трэсне штο зімой… Але ўжо лепш так, чым было. Аблуплены Гарадок быў перад «Дажынкамі», — сказаў мне Васіль і, пачакаўшы, пакуль праз двор праедзе вялікі жоўты пагрузчык, пайшоў да ўнiверсама, ля якога экскаватарам узрылі ўсю тэрыторыю, каб замяніць стары асфальт на плітку.

Жыхары Гарадка звыкліся з часовымі нязручнасцямі жыцця на будпляцоўцы. Сярод гаспадарскіх справаў у Гарадку самая папулярная — мыццё вокнаў.

На тых дамах, дзе муляры паспешліва абнаўлялі фасады неакуратна, заплямлена шмат вокнаў. Гулу тэхнікі не чуваць толькі ў аддаленых раёнах — іх рэканструкцыя не зачапіла.

Спіс запланаванага ўражваў мясцовых жыхароў — новы стадыён, басейн, гандлёвы цэнтр… Але грошай не хапіла. Будаўніцтва басейна не распачалося.

Дарэчы, басейн пабудавалі пад абласныя «Дажынкі» ў Расонах некалькі гадоў таму, а жыхароў там у два разы меней.

Несістэмнасць працы мясцовых чыноўнікаў, каб асвоіць нават прапанаваны бюджэт, праявіла сябе і тут. За чатыры месяцы да свята Гарадоцкі райспажыўсаюз толькі пачынаў шукаць падрадчыкаў для будаўніцтва двух новых будынкаў. Масавая рэканструкцыя «наскокам», калі будаўнічыя брыгады збіраюцца з усяго рэгіёна і наспех рамантуюць дзясяткі аб'ектаў без належнай арганізацыі працэсу, аказваецца неэфектыўнай і растратнай. Гэта пачалі разумець чыноўнікі самага высокага ўзроўню.

Візіт прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча з інспекцыяй у Гарадок 25 ліпеня гэта толькі пацвярджае: «Трэба было першапачаткова канцэнтраваць увагу і грошы на тым, што неабходна ў першую чаргу, на тым, што рыхтуецца не проста да «Дажынак», а будзе працаваць для эканомікі Гарадка многія гады. На жаль, размазалі сродкі па многіх аб'ектах, і цяпер трэба ратаваць становішча», — сказаў прэм'ер.

Дзіўна толькі, чаму для Мясніковіча, якому вядомы ўсе пралікі дажынкавых рэканструкцый мінулых гадоў, гэтая выснова стала актуальнай толькі цяпер — падчас падрыхтоўкі да 19-х (!) «Дажынак»?

Цяпер ясна, чаму Лукашэнка сваім рашэннем вясной згарнуў створаны ім жа праект пад назвай «Рэспубліканскія Дажынкі». Так і не склалася гнуткая сістэма кантролю за расходам бюджэтных сродкаў. Не склалася і здаровая сістэма працоўных зносін, якая ўплывае на эфектыўнасць і якасць працы. «Дажынкам», каб стаць аналагам «Актобэрфэсту», не хапіла сучаснага менеджменту, прыватніка. Хаця само свята магло б стаць беларускай культурнай адметнасцю.

Прапаноўваецца адзначаць найлепшых працаўнікоў вёскі ў пачатку года ў Палацы незалежнасці. Лукашэнка будзе вітаць хлебаробаў са сцэны, а гул яго вёрталета застанецца толькі ў памяці жыхароў некалькіх гарадоў. Гарадок сярод іх будзе апошнім.

* * *

*Першыя рэспубліканскія «Дажынкі» прайшлі ў 1996-м у Століне. Пасля гэтага месцам іх правядзення выбіралі яшчэ Шклоў, Масты, Оршу, Маладзечна, Горкі ды іншыя гарады. Кожны раз да «Дажынак» райцэнтры атрымлівалі шматмільярдныя інвестыцыі ў інфраструктуру і сацкультбыт. Цэнтральнай падзеяй святаў заўсёды з'яўляўся візіт Аляксандра Лукашэнкі на канцэрт і адкрыццё новых аб'ектаў інфраструктуры. «Дажынкі—2013» у Жлобіне сталі апошнімі ў статусе Рэспубліканскага свята працаўнікоў вёскі.*

**Сяргей Гудзілін "Наша Ніва"**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ГАСПАДАР СЛОВА

# КАК ЛУКАШЕНКО КРЕДИТОВ НЕ БРАЛ

**В рамках проекта «20 лет правления Александра Лукашенко» мы решили вспомнить об одном из самых главных обещаний руководителя Беларуси народу.**

Сегодня это кажется уже сюжетом из какого-то фантастического фильма, а ведь в 2001 году на этом строилась предвыборная кампания Александра Лукашенко, и именно это подавалось как одно из самых больших достижений правящей власти. Так что же такого обещал Александр Григорьевич белорусам в те далекие времена? А обещал он — только не падайте со стула — «и впредь кредитов не брать».

Выступая на Втором всебелорусском собрании, Лукашенко хвастался: «Мы не разбазарили народное достояние, не нахватались иностранных займов, не влезли в долги, отдавать которые пришлось бы детям и внукам!»

Такая забота «о детях и внуках» действительно казалась похвальной. Правда, глава государства тогда был не достаточно откровенен. Долг у Беларуси на тот момент все-таки имелся, хоть по сегодняшним меркам и не такой большой — 2 миллиарда 92 миллиона долларов, или 209 USD на каждого белоруса. Для сравнения: в 1997 году отдельно взятый гражданин должен был 197 долларов.

Шли годы, а риторика Лукашенко оставалась все той же. А вот долг, к сожалению, нет. В 2007 году наша страна набрала уже кредитов на 6 млрд.844 млн. долларов. При этом руководитель Беларуси все еще продолжал вещать о жизни без долгов.

— Неоспоримым преимуществом нашей модели экономического развития является то, что мы не влезли в долги. Кредит – это капкан, в который попадем даже не мы, а наши дети и внуки. Ни в коем случае нельзя допустить, чтобы кредит превратился в средство давления на нашу страну, — отмечал в ежегодном послании к Национальному собранию и народу Александр Лукашенко в 2007 году.

Однако тот факт, что наша страна все прочнее садится на кредитную иглу, с каждым годом наращивая темпы заимствований, скрывать становилось уже бессмысленно. СМИ наперебой вещали о российских, китайских, МВФовских и еще бог знает каких кредитах, призванных спасти нашу экономику.

Теперь уже и Лукашенко, не стесняясь, описывал все радости жизни в долг, заявляя что, взяв кредиты, наша страна получила «запас прочности». И ни слова о жизни без долгов как о неоспоримом преимуществе нашей экономической модели и светлом будущем наших детей и внуков.

И ведь что удивительно: социологи обнаружили странную закономерность, согласно которой рейтинг главы государства даже рос после очередного «развивающее-модернизационно-стабилизационного» кредита.

Старался и Александр Григорьевич, не уставая пополнять «запасы прочности». К очередным президентским выборам 2010 года Беларусь успела задолжать в общей сложности более 23 млрд. долларов (из них 9,6 млрд. — госдолг). То есть менее чем за 10 лет долг Беларуси вырос более чем в 10 раз! К тому времени каждый белорус, включая грудных младенцев, должен был, ни много ни мало — почти 2,5 тысячи USD.

Но и это был далеко не предел. В январе 2013 года внешний госдолг нашей страны составлял уже 12 миллиардов долларов. А на 1 июля 2014-го он вырос, по данным Минфина, до 13,4 млрд долларов!

Сегодня сообщения о договоренностях по очередному кредиту выглядят такими же рядовыми новостями, как прогноз погоды. Мало удивляет и то, что миллиарды очередного транша пролетают мимо «золотовалютных» хранилищ страны, уходя на погашение долгов — белорусская экономика уже давно работает по принципу набрать новых кредитов, чтобы оплатить старые.

Грядет 2015 год и, честно говоря, даже интересно, что теперь о жизни в долг будет вещать Александр Лукашенко в своей предвыборной кампании. Хотя по сути не важно, что он скажет, учитывая цену этих обещаний.

**Анастасия Зеленкова**
**“Салідарнасць”**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# КОЛЬКІ НІ ДАВАЙ ГРОШАЙ, УСЁ БЕСКАРЫСНА?..

**Лукашэнка, які 20 гадоў выносіў на руках свае любімыя калгасы, зноў прыстрашыў сялян: нядобра і далей дзяржаве цягнуць на плячах сельгасвытворчасць - сяляне павінны самі зарабляць.**

Падобнае прызнанне кіраўніка дзяржавы выглядае даволі смелым, улічваючы, якія сродкі ўкладваюцца ў сельскую гаспадарку вось ужо колькі гадоў.

Зрэшты, «апошняе кітайскае папярэджанне» ў яго выкананні беларусы чулі і год, і сем гадоў таму ...

Прапануем абранае.

**15 жніўня 2014**

- Далейшы прыярытэт дзяржаўнай дапамогі аграрнай галіны будзе засяроджаны на кропкавым фінансаванні перспектыўных праектаў, - паведамілі interfax.by ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы па выніках паездкі кіраўніка дзяржавы па Гродзенскай вобласці. - Наладжваць на працу ў

*працяг на стар. 4*

# КАРЫКАТУРА ПРА СПАД У РАСІІ – ВЫСНОВЫ МВФ



*Беларусь і Літва сярод усіх знешнегандлёвых партнёраў Расіі ў найбольшай ступені адчуюць на сабе негатыўны ўплыў заходніх санкцый і агульнага запавольвання эканамічнага росту ў Расіі, цытуе Інтэрфакс выснову экспертаў Міжнароднага валютнага фонду (МВФ).*

***www.svaboda.org***

ГУЧНАЯ СПРАВА

# АБ СІТУАЦЫІ ВАКОЛ ГАННЫ ШАРЭЙКА

**“Радыё Свабода” паведаміла, што на месца Ганны Шарэйкі выконваючым абавязкі прызначаны Віктар Міраш, старшыня Гарадоцкага райсавету.**

Пазбаўленьне сэнатарскай недатыкальнасьці і арышт былой дырэктаркі Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі Ганны Шарэйкі, а таксама чатырох прадстаўнікоў адміністрацыі прадпрыемства і двух супрацоўнікаў расейскай кампаніі застаюцца ў цэнтры ўвагі жыхароў Віцебску. Прычым шмат хто не асуджае Шарэйку, а толькі наракае, што мала інфармацыі пра яе лёс ды пра тыя карупцыйныя ўчынкі, якія ёй інкрымінуюцца.

У свае 55 год Ганна Шарэйка ня мае ні сям'і, ні дзяцей — што адпавядае ўяўленьню пра жанчыну-кіраўніка, якая «ахвяравала ўсім у імя кар'еры». Таму распытацца пра яе лёс няма ў каго.

На афіцыйным сайце птушкафабрыкі Ганна Шарэйка дагэтуль значыцца генэральным дырэктарам. Але ў прыёмнай патлумачылі, што на дадзены момант абавязкі кіраўніка выконвае Віктар Міраш, старшыня Гарадоцкага райсавету.

Размаўляць пра сваю папярэдніцу ён адмаўляецца. А што да яго самога, то да абраньня ў райсавет ён быў дырэктарам Гарадоцкай птушкафабрыкі — вядомага ў раёне стратнага прадпрыемства.

У нумары газэты «Гарадоцкі весьнік» ад 29 сакавіка, дзе паведамлялася пра вынікі выбараў, была апублікаваная справаздача ААТ «Птушкафабрыка Гарадок». Згодна зь ёй, птушкафабрыка мела больш за 4 мільярды рублёў стратаў ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў ды паслугаў, а агульная сума стратаў дасягнула амаль 18 мільярдаў рублёў.

Паводле Генэральнай пракуратуры Беларусі, Ганна Шарэйка падазраецца ўтым, што бройлерная птушкафабрыка пад яе кіраўніцтвам страціла 4 мільярды рублёў праз незаконныя здзелкі, зьвязаныя з пастаўкамі камбікармоў.

Згодна з вэрсіяй Сьледчага камітэту і Генэральнай пракуратуры, у арыштаванай быў «сябар» — «уласьнік замежнай кампаніі», адносна якой Ганна Шарэйка нібыта «давала незаконныя ўказаньні, каб прызнаць яго пераможцам конкурсу» ў тэндэры на набыцьцё камбікармоў.

Беларускія вытворцы кармоў для птушкі таксама зьвярталіся да яе, ды атрымалі адмову. Ня выканаўшы загаду «купляй беларускае», Ганна Шарэйка дапусьціла яшчэ адзін «пралік»: прадпрыемства мела невялікія прыбыткі, бо амаль усе зароблены сродкі ішлі на пашырэньне вытворчасьці.

Усё гэта стала нагодай для праверкі прадпрыемства, якая скончылася арыштамі. У ліпені затрымалі чатырох працаўнікоў, прозьвішчы якіх не агучваюцца. Таксама па беларускім тэлебачаньні было заяўлена, што затрымалі і дваіх расейскіх камэрсантаў, якія займаліся пастаўкамі камбікармоў. Паводле некаторых зьвестак, гэта супрацоўнікі ААТ «Русскам-Р», якое выступае прадстаўніком ААТ «Рыскі камбікормавы завод».

Агучана была і сума матэрыяльнай шкоды, нанесенай прадпрыемству, — каля 4 мільярдаў беларускіх рублёў. Аднак далейшыя падрабязнасьці з афіцыйнага паведамленьня Генпракуратуры выклікалі ў землякоў Ганны Шарэйкі вялікія сумневы ў справядлівасьці абвінавачаньня. Прыкладам, тое, што Шарэйка мела «катэдж плошчай 240 квадратных мэтраў»…

Дарэчы, катэдж Ганны Шарэйкі па тэлебачаньні не паказалі — мабыць, гэта ня самы пераканаўчы аргумэнт. І дзе ён — ніхто ня ведае. Прынамсі, не ў так званым «царскім сяле» ў прыгарадным пасёлку Тулава, дзе пасяліліся рознага кшталту начальнікі ды заможныя людзі.

Мясцовыя жыхары кажуць, што ў вёсцы Кузьміно Гарадоцкага раёну ў Ганны Шарэйкі ёсьць лецішча. І многія жыхары райцэнтру адзначаюць, што па дарозе туды яна заўжды закупляла прадукты ў фірмовай краме свайго ж прадпрыемства. Пры гэтым стаяла ў чарзе, як усе, падкрэсьлівае Леанід Аўтухоў, актывіст партыі БНФ з Гарадка:

«Яна зайшла, паўсьміхалася, запыталася, як справы. Была ў спартовым гарнітуры, вельмі сьціпла. Гэта потым мне дзяўчаты сказалі: „Гэта ж наша дырэктарка!“ Чыноўнік такога рангу — і так сьціпла сябе паводзіць, купляе ўсё ўласнай вытворчасьці... А што ў яе там мільярды знайшлі, дык, можа, і наркотыкі цяпер знойдуць. А як яна ня замужам, дык рознай брыдоты абальюць... У гэта ў нас ня вераць. Катэдж у 240 квадратных мэтраў — гэта драбяза ў параўнаньні з нашымі іншымі чыноўнікамі! Я думаю, адбываецца рэйдэрскі захоп! Бо прадпрыемства моцнае, прадпрыемства працуе, яна — чалавек на сваім месцы, так што — рэйдэрскі захоп, і ўсё тут».

Абвінавачаньні ў тым, што Ганна Шарэйка набывала «дарагую бытавую і электронную тэхніку» ды «забясьпечыла сабе матэрыяльны дабрабыт на будучыню», таксама выглядаюць несур'ёзна, пакуль не названыя нейкія канкрэтныя лічбы. І пакуль ніякай канкрэтыкі няма, Ганну Шарэйку на Віцебшчыне лічаць хутчэй ахвярай «разборак» у вышэйшых колах, чымсьці злачынцай-карупцыянэркай.

**www.svaboda.org/content/article/26543028.html**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

*пачатак на стар. 3*

сельскай гаспадарцы ўжо тымі сіламі, якія сёння ёсць. Маса тэхнікі, людзі хочуць працаваць - працуйце! Таму што асноўныя сродкі дзяржава павінна будзе накіраваць на мерапрыемствы і праграмы, за якія яно, перш за ўсё, адказвае: дарогі, зямлі, меліярацыя і г.д. Гэта галоўнае для дзяржавы.

Далей цягнуць на плячах сельскагаспадарчую вытворчасць - не гонар. Трэба, каб сяляне самі зараблялі ... Гэта не значыць, што мы кагосьці не падтрымаем. Калі трэба, калі мы бачым перспектыву, што, уклаўшы рубель, заўтра будзе аддача - мы ўкладзем ... Таму што ісці агульным фронтам, як рабілі, не трэба. Ужо з'явілася шмат нахлебнікам, якія сядзяць і думаюць: дадуць. Нічога ніхто не дасць.

Ён дадаў, што "будучы год павінен стаць пераломным па працы з зямлёй».

**Чэрвень, 2014**

Дзяржава будзе падтрымліваць толькі паспяховых сельгасвытворцаў. Аднак атрыманыя пазыкі трэба будзе вярнуць не пазней чым праз восем гадоў, заявіў Лукашэнка, наведваючы сельгаспрадпрыемства Чачэрскага раёна.

- Мы будзем даваць грошы толькі тым, хто зможа іх вярнуць, - падкрэсліў ён. - Таму астатнім, тым, хто лайдачыць і не можа нармальна працаваць па іншых прычынах, трэба ўжо думаць пра тое, як працаваць нармальна, каб выжыць. Гэта ўжо не тыя часы, калі ў нас хлеба ня хапала і соль заканчвалася.

**Сакавік, 2013**

Лукашэнка прызнаў, што толькі трэціна сельскагаспадарчых арганізацый працуюць добра. Разам з тым ён заўважыў, што ў сельскай гаспадарцы яшчэ маса рэзерваў:

- І галоўнае - гэта кадры - кіраўнікі, спецыялісты, сяляне. Там, дзе ёсць жаданне працаваць, дзе нацэлены на працу, там ёсць вынік. Там, дзе няма нармальнага кіраўніцтва, спецыялістаў, там і людзі працуюць слаба. Ты ім колькі ні давай грошай, усё бескарысна.

**Кастрычнік, 2007**

- Хай гінуць! 13 гадоў іх на сваіх плячах носім. Хопіць ужо, - заявіў сёння Аляксандр Лукашэнка, кажучы аб адстаючых сельгаспрадпрыемствах падчас наведвання СВК «Гервяты» Гродзенскай вобласці.

Ён таксама адзначыў, што распарадзіўся з наступнага года скараціць на 50% дзяржаўныя датацыі для паспяховых сельгаспрадпрыемстваў, а адсталыя наогул пакінуць без падтрымкі.

- Гаспадаркі, якім мы дапамаглі, якія паднялі з каленяў, дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы, павінны зарабляць самі.

Больш за тое, Лукашэнка падкрэсліў, што «яшчэ праз год, а менавіта ў 2009 годзе, добра працуе прадпрыемства наогул не павінны атрымліваць ніякіх дзяржаўных датацый».

**Лера Васількова**
**gazetaby.com/cont/art.php**

ДА ДНЯ ВЕДАЎ

# КОЛЬКІ ПАВІНЕН ЗАРАБЛЯЦЬ НАСТАЎНІК?

**Колькі дзён таму я ў роднай Гародні браў удзел у грамадскіх слуханнях, цыкл якіх распачаў па беларускіх гарадах "Народны рэферэндум", ініцыяваны ў тым ліку і Рухам "За Свабоду".**

Слуханні былі прысвечаны рэформе ў галіне адукацыі – як зрабіць яе больш якаснай і пры гэтым даступнай? Пытанне надзвычай важнае, бо гэта будучыня нашых дзяцей і ўнукаў. Таму яно і ў парадку дня "Народнага рэферэндуму".

Слуханні актуальныя яшчэ і таму, што неўзабаве будзе прынята новая рэдакцыя Кодэксу аб адукацыі. Грамадства мае магчымасць выказаць свае заўвагі. Зрэшты, маю і асабісты клопат-інтарэс - як учарашні выкладчык і сённяшні дзед.

Праблемы навідавоку - нізкаякасць адукацыі, што адлюстроўваецца ў выніках цэнтралізаванага тэставання, архаічнасць метадаў выкладання і зместу дысцыплін, заідэалагізаванасць, адсутнасць акадэмічных свабодаў і самакіравання ва ўніверсітэтах. Але ўказваць на праблемныя кропкі мала. Што рабіць?

У тэксце праекта Кодэксу аб адукацыі, як заўважыў падчас слуханняў прафесар Уладзімір Дунаеў, няма нават мінімальнага працэнта выдаткаў з бюджэта на адукацыю. У цывілізаваных краінах гэта недзе 10%.

Бясконцыя эксперыменты прывялі да таго, што адукацыя даведзена да ручкі, а прафесія настаўніка стала зусім не прэстыжнай. Пра што можна казаць, калі сёння ў педагагічныя ўніверсітэты на большасць факультэтаў залічваюць усіх, хто падае дакументы. А заўтра яны будуць вучыць нашых дзяцей.

Тое самае з данаборамі "двоечнікаў" на такзваныя "вострazапатрабаваныя экономікай і сацыяльнай сферай спецыяльнасці".

Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, якая не далучылася да Балонскага працэсу, што мае мэтай стварэнне адзінай Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі. Існуе вельмі вялікая праблема з прызнаннем нашых дыпломаў па-за межамі краіны. Выпускнік беларускага ўніверсітэта не мае тых магчымасцяў і перспектываў, якімі валодаюць студэнты ў суседніх краінах.

Кожны год расце колькасць студэнтаў, што атрымліваюць вышэйшую адукацыю на платнай аснове, і па некалькі разоў на год павялічваецца памер аплаты за навучанне.

Беларускія сем'і часта не могуць сабе дазволіць вучыць дзяцей за грошы. Мы прапануем стварыць Фонд будучых пакаленняў, які будзе напаўняцца, сярод іншага, з прыватызацыйных грошай. Гэты фонд стане асновай сістэмы "Дзіцячага капіталу".

У выніку навучальныя ўстановы будуць атрымліваць належных грошы за сваю працу. А бацькі ў той самы час будуць гарантавана мець сродкі на навучанне дзяцей ад моманту іх нараджэння.

Але найперш мы павінны аднавіць прэстыж прафесіі педагога. Пазіцыя Руху "За Свабоду" што да рэформы ў сферы адукацыі выкладзена ў "Народнай праграме". Напрыклад, што тычыцца немалаважнага матэрыяльнага боку: узровень аплаты працы настаўніка ў пачатковай і сярэдняй школе мусіць быць даведзены да памеру 120-130% ад сярэдняга заробку ў дадзенай мясцовасці.

**Аляксандр Мілінкевіч**
**Naviny.by**

СЯРЭДНЯЯ ЗАРПЛАТА

# УЛАДЫ РАСКАРМЛІВАЮЦЬ ІНФЛЯЦЫЮ

**Намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата ў Беларусі ўсё павялічваецца і ўжо перасягнула мяжу ў 600 даляраў ЗША. Ці адчуе насельніцтва гэта павелічэнне або яго з'есць інфляцыя?**

Па дадзеных Мінпрацы, намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў Беларусі ў студзені-чэрвені 2014 па параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года павялічылася на 20,6% і дасягнула 5млн. 764,8 тысячы рублёў, у тым ліку ў чэрвені - 6 млн 198, 5 тыс. (610,6 долара ў эквіваленце). Рэальная ж заработная плата ў першай палове гэтага года да аналагічнага леташняга перыяду ўзрасла на 2,9%.

Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата работнікаў бюджэтных арганізацый у студзені-чэрвені 2014 у параўнанні з студзенем-чэрвенем 2013 павялічылася на 20,7% і дасягнула 4 мільёнаў 292,5 тысячы рублёў, у тым ліку ў чэрвені 4 млн. 704,9 тыс . (463,5 даляра ЗША ў эквіваленце). З пачатку 2014 года, нагадаем, зарплата бюджэтнікаў павышалася двойчы ў сувязі з павелічэннем тарыфнай стаўкі першага разраду: з 1 красавіка - з 260 тысяч да 262 тысячы рублёў, з 1 мая - да 275 тысяч, або на 5,8% да 1 студзеня 2014 года.

Рост заробкаў, як адзначае эканамічны эксперт Ліберальнага клуба Антон Балточка, - «гэта купля сацыяльнага спакою». Ён звяртае ўвагу, што павялічваецца не толькі сярэднямесячная, але і медыянны заробак, памер якой па выніках студзеня-траўня быў менш сярэдняй на 20%: «Хай медыянны заробак прыкметна менш сярэдняй па краіне, але яго памер таксама вышэй за 500 даляраў, якія так доўга абяцаў нашаму народу ўрад ».

Розніца сярэдняй зарплаты ў студзені-чэрвені па відах эканамічнай дзейнасці склала 4,6 разы (дзейнасць, звязаная з вылічальнай тэхнікай, - 15 млн. 443,3 тыс., Прадастаўленне сацыяльных паслуг - 3 млн. 223,9 тыс.). Міжрэгіянальная дыферэнцыяцыя дасягае 1,53 разы (Мінск - 7 млн. 692,3 тыс., Брэсцкая вобласць - 5 млн. 13,8 тыс.).

Лыжка дзёгцю ў бочцы заробкаў

Аднак не ўсё так гладка, як малюецца афіцыйнай статыстыкай. Па-першае, гаворка ідзе аб павелічэнні намінальнай налічанай сярэднямесячнай зарплаты, гэта значыць, за вылікам падаткаў атрымліваецца прыкметна менш, чым 610,6 даляра ў эквіваленце. Ды і курс даляра працягвае браць усё новыя вышыні.

Па-другое, «для нармальнага росту эканомікі павышэнне зарплат павінна быць стабільным». Іншымі словамі, у эканоміцы павінны быць створаны ўмовы, якія спрыяюць ўстойліваму росту даходаў: «Дрэнна для эканомікі, калі памер заробкаў пасля перыяду прыкметнага росту рэзка падае ў доларавым эквіваленце, як у нас ужо было ў 2011 годзе, - падкрэсьлівае Антон Болточка. - Гэта стварае рызыкі, не спрые захаванню макраэканамічнай стабільнасці ».

Міжнародныя фінансавыя арганізацыі наогул рэкамендавалі беларускім уладам адмовіцца ад практыкі павышэння заробкаў у бягучым годзе. Кіраўнік місіі МВФ Дэвід Хофман на прэс-канферэнцыі 28 красавіка ў Мінску адзначыў, што гэта варта зрабіць для змякчэння «рызык неўпарадкаванай карэкціроўкі знешніх дысбалансаў» у эканамічнай палітыцы. «У прыватнасці, у мэтах стрымлівання ўнутранага попыту і скарачэння дысбалансаў мэтавае крэдытаванне неабходна скарачаць значна хутчэй, чым прадугледжваецца ў цяперашні час, і ня варта далей павышаць заработную плату ў бягучым годзе», - сказаў Хофман.

Відавочна, што і цяперашні рост заробкаў будзе ў значнай ступені з'едзены інфляцыяй. Так, з 1 верасня ў Беларусі праіндэксуюць некаторыя субсідуюцца тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва - адразу на 9,8%, як паведаміў 12 жніўня дырэктар дэпартамента цэнавай палітыкі Міністэрства эканомікі Ігар Фамін. У далейшым тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі будуць расці і ў сувязі з планамі ліквідаваць да 2017 года перакрыжаванае субсідаванне, якое павінна прывесці да зніжэння нагрузкі на рэальны сектар эканомікі.

Немінуча павышэнне і іншых коштаў, упэўнены Антон Болточко: «Гэта метад звязвання плацежаздольнасці насельніцтва, які ўжываюць улады. Інфляцыя з'яўляецца ў нашым выпадку кампенсацыяй хуткага росту заробкаў, атрыманых насельніцтвам незаслужана. Як бы гэта непрыемна ні гучала, так яно і ёсць, калі ўлічваць нізкія тэмпы росту прадукцыйнасці працы і ВУП ».

Між тым, інфляцыя ўжо за сем месяцаў 2014 перавысіла прагноз, закладзены урадам на ўвесь год. За ліпень індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі склаў 111,1 адсотка да снежня 2013.. У Нацбанку яшчэ па вясне задумаліся аб перагладзе гадавога прагнозу з 11 да 16-17%. І той факт, што ўдакладнены прагноз да гэтага часу не апублікаваны, падштурхоўвае да думкі: улады пакуль і самі не разумеюць, наколькі вялікія апэтыты ў інфляцыі. (скарочана)

**Алена Спасюк**
**"БЕЛАПАН"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.08.2014 у 16.10** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.